*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 1 (588)** **8 СТУДЗЕНЯ 2003 г.**

# *З прайшоўшымі Калядамі і надыходзячым Старым Новым годам, сябры!*

## *Рэспубліканская рада ТБМ*

Чарговае паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ адбудзецца 26 студзеня 2003 г. у памяшканні Чырвонага касцёла ў Менску на плошчы Незалежнасці.

**Пачатак а 12-й гадзіне.**

Прыкладны парадак дня:
1. Справаздача Старшыні ТБМ аб працы за 2002 год.
2. Абмеркаванне і зацверджанне плана работы на 2003 год.
3. Вызначэнне даты склікання і квот дэлегатаў на чарговы з'езд ТБМ.
4. Пра змены ў складзе Сакратарыяту.
5. Зварот да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў.
6. Вызначэнне памераў сяброўскіх складак на 2003 год.
7. Рознае.

**Сакратарыят.**

## *19 студзеня 1518 года (485 гадоў назад) Францішак Скарына выдаў у Празе кнігу "Прамудрасць Божая"*



## "Дарога праз Курапаты" – гэта крык, што жыве Беларусь




23 снежня ў Палацы Мастацтва адбылася прэзентацыя кнігі Ганны Соўсь "Дарога праз Курапаты". Кнігу склалі рэпартажы, якія гучалі ў эфіры "Радыё Свабода" з восені 2001 да лета 2002 года і за якую Ганна Соўсь была ўзнагароджана прэміяй Алеся Адамовіча. Беларускі ПЭН-цэнтр "Дарогу праз Курапаты адзначыў, як найлепшую журналісцкую працу года.

На прэзентацыі сустрэліся валанцёры, журналісты, ахвяры рэпрэсій, археолагі і ўсе неабыякавыя да будаўніцтва "на касцях."

З другой спробы удалося прамое ўключэнне "Радыё Свабода". Прысутныя пачулі запіс са словаў аднаго з валанцёраў, які з непарушнай ініцыятывай у голасе казаў пра перашкоды і свае паводзіны назваў далёка не геройскімі, а нармальнымі для любога патрыёта. Ва ўмовах дваццаціградуснага марозу не працавала найсучаснейшая тэхніка, а людзі жылі ў палатках грэліся ля "буржуек".

Наймацнейшыя словы аднаго з удзельнікаў кнігі Сяржука Высоцкага: "Цяжка перамогчы зло ў краіне зла". Гэты чалавек кожны дзень прыносіў ад сваёй сям'і харчы валанцёрам, калі скончыліся пастаўкі ежы.

Павел Севярынец – пэўна, самая выразная фігура вечара, акрамя, вядома, спадарыні Ганны. Ён прамовіў словы, якія надалі аптымізму і ўпэўненасці, якія пасялілі недзе ў глыбіні душы ціхую, чыстую і нясмелую радасць за будучае – наша (!) Будучае. "Дарога праз Курапаты" – гэта шлях не толькі праз вечнасць, смерці, страх і пакуты, гэта – дарога да ўваскрашэння (бо крыж сімвалізуе ўваскра-шэнне), да перамогі.

Вечарына завяршылася рылігійнымі песнямі гурта "ULIS" "Радыё Свабода". А я ў гэты момант назірала за Вячаславам Коранем, які сядзеў побач, і ўбачыла ў вачах музыкі тую ж чыстую і сціплую радасць, якая перапаўняла зараз і мае сэрца. Толькі цяпер ужо не разумела, адкуль яна ўзялася: ці то ад слоў спадара Севярынца, ці то ад шчырай усмешкі Славы Кораня, ці ад таго букеціка бел-чырвонабелых кветак, падоранага Ганне Соўсь.

Дзякуй неабдымны таленавітай журналісты і абаяльнай жанчыне спадарыне Ганне, якая на поўную моц "крыкнула" сваёй "Дарогай праз Курапаты", што ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

***Людміла Асіпенка.***

*Сяргей Панізьнік*

## Палачанін-прадвеснік

*Да 485-годдзя з дня выдання ў Празе Ф. Скарынам кнігі "Прамудрасць Божая" (19 студзеня)*

**Ведаў клятву Гіпакрата**
**Доктар лекарскіх навук –**
**Наш Скарына. Для сабрата**
**Выдаў зелля ён багата**
**Са сваіх гаючых рук.**
**Непагасла ў нас гарэнне**
**Дабрамудрага жыцця.**
**І яго "Благаславенне"**
**Прарастае з небыцця.**
**Як пазбавіцца ад ліха, -**
**Даў і мне ён свой рэцэпт:**
**У яго біблейных кнігах –**
**Мовы полацай акцэнт.**
**Каля Влтавы мы сустрэлі**
**З мудрай думай земляка.**
**Нам "Арс лонга, віта брэвіс"***
**Паўтарала з ім рака.**
**Сёння мне Дзвіна паможа**
**Мову Прагі зразумець:**
**"Толькі Полацак і можа**
**Вечнага Скарыну мець!"**

* ***"Жыццё кароткае, мастацтва вечнае".*** *Афарызм Гіпакрата.*



## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Аляксей Будзянок, Менск – 2000 р.
2. Русак Андрэй, Менск – 1000 р.
3. Галай Аркадзь, Менск – 16000 р.
4. Надзея Барт-Юрэвіч, Германія – 30 дол.
5. Міхась Тычына, Слуцк – 1500 р.
6. Віктар Скараход, Менск . – 10000 р.
7. Дрык з Івацэвічаў – 500 р.
8. Кананава Л., Менск – 20000 р.
9. Казлоўская Іна, Менск – 1100 р.
10. Марголін, Менск – 5000 р.
11. Супл. "Рэфармацыя", Менск – 20 дол.
12. Севастопальская суполка – 5 дол. -- 20 укр. гр.
13. Гліндзіч Яніна, Менск – 3000 р.
14. Дзягілеў Лявон, Менск – 3000 р.
15. Дзягілева Галіна, Менск – 3000 р.
16. Шкірманкоў Фелікс, Слаўгарад – 5000 р.
17. Бакіноўскі Валянцін, Маладзечна --10000 р.
18. Зубкевіч Іван, Маладзечна -- 10000 р.
19. Шыман Леанід, Маладзечна – 1000 р.
20. Шыдлоўскі Р.Е., Менск – 5000 р.
21. Гракун Валянціна Бешанковічы – 20500 р.
22. Асвяцінскі Геральд, Віцебск – 10000 р.
23. Лагвіновіч Іван, Баранавічы – 5000 р.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## *Віншавальная тэлеграма*

Таварыства беларускай мовы сардэчна віншуе вядомага палітыка, грамадскага дзеяча, шчырага беларуса **Сямёна Домаша** з юбілеем, 55 - годдзем з дня народзінаў. Жадаем Вам моцы, плёну ў працы па адраджэнні роднага слова, шчасця, аптымізму і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

Старшыня ТБМ –
**Алег Трусаў.**



*Б ог аб'явіўся Хрыстос нарадзіўся*

# КАЛЯДКІ У "ЗАСЦЯНКОВАЙ ХАТЦЫ"

**(засценак "ВАШУНАВА" Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці)**

*"Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына..."*
*Янка Купала.*

Гэтая спадчына – хрысціянская, яна перадаецца нам з пакалення ў пакаленне. Сярод іх – **Божае Нараджэнне**, якое заўсёды адзначалася ў Вашунаве.

***Сёння Куцця, а заўтра Каляды,***
***Вялікае свята!***
***Пабелена печ і падмецена хата...***
***Хрыстос нарадзіўся,***
***Ён нам – аб'явіўся.***
***Прыйшлі сюды людзі,***
***Прыйшлі сюды дзеткі,***
***Усе да Ісуса, усе ў адведкі...***
***Хрыстос нарадзіўся,***
***Ён нам аб'явіўся.***
***Мы селі ля стола,***
***Мы селі ля печкі,***
***Усюды ў хаце запалены свечкі...***
***Хрыстос нарадзіўся***
***Ён нам аб'явіўся.***
***Мы любім Ісуса,***
***Мы дзелім аплатак,***
***Каб згода была і быў поўны парадак...***
***Хрыстос нарадзіўся,***
***Ён нам аб'явіўся.***
***Каляды ў хатцы, прысвечаны матцы***
***І вам, мае дзеткі,***
***Хто сёння прыйшоў у адведкі.***
***Хрыстос нарадзіўся!***
***Хрыстос нарадзіўся!***
***А я ўсім пакланіўся...***
*(Вашунава –2000, Гіль Юры.)*

Галоўнымі элементамі святкавання Калядаў з'яўляецца – стол пакрыты белым абрусам, сена альбо салома, аплатак і прыгажуня ёлка, якая ставілася ў гэты Вігілійны вечар.

Божае Нараджэнне – 24 снежня - гэта спосаб святкавання прыходу Ісуса Хрыста на свет, дзякуючы гэтаму мы сталі хрысціянамі а пан Езус паказаў нам шлях у Неба, да Бога.

Сядаемся ўсе мы за Вігілійны стол пры з'яўленні на небе першай зорачкі (у памяць той Бэтлеемскай, якая паказала шлях да калыскі Ісуса Хрыста). Слова "Вігілія" па-латыні гэта азначае сваеасабліве адчуванне перад нараджэннем Ісуса Хрыста. Гэты вечар ці вячэра і называецца Вігілійнай. На стол кладзецца сена, якое напамінае, што Ісус Хрыстос нарадзіўся ў хляўку (гроце), дзе стаяла жывёла. Сена закрывалі белым ільняным абрусам, потым на яго ставілі **"куццю"** (разныя стравы: кашу, кісель, грыбы і г. д). У цэнтры Вігілійнага стала на талерачцы ставілі (калі) – **аплатку** *(каляду)*, якую разломвалі і дзялілі на ўсю сям'ю. Аплатка - гэта тоненькі прэсны хлеб, які выпякаўся ў касцельных пякарнях з высокаякаснай мукі ў спецыяльных формачках з рэлігійнымі матывамі. "Ламанне" гэтага хлеба сімвалізавала волю людзей да пажадання, дзяліцца з іншымі ўсім тым, што маем і прабачэнне адзін другому зробленых непрыемнасцяў.

Першы дзень Божага нараджэння - 25 снежня (у каталікоў). З гэтага Дня пачыналіся ***"Калядкі"***, якія доўжыліся два тыдні да ***"Трох каралёў"***.

***"Калядаванне"*** ёсць нед'емным элементам святкавання Нараджэння Хрыста. Калядніі (калядоўшчыкі) вандруюць ад хаты да хаты, дзе праслаўляюць з'яўленне на свет Збаўцы Нашага – Ісуса Хрыста, няслі добрае слова да гаспадара дома, за што атрымоўвалі гасцінцы. Папярэдзе заўсёды ішоў калядоўшчык з вялікай Бэтлеемскай зоркай.

За гады савецка-бальшавіцкай улады і ваяўнічага атэізму хрысціянскія традыцыі, у тым ліку і "калядкі" пачалі "затухаць", але прадаўжалі жыць. Гэта было і ў засценку Вашунава, дзе цяпер знаходзіцца ўсім вядомая "Засцянковая хатка". Цяпер яна моцны асяродак нацыянальнага і рэлігійнага жыцця, дзе кожны год праводзяцца цікавыя імпрэзы, прапагандуючы народныя традыцыі.

***25-га снежня***
***Дзень нараджэння Ісуса з Назарэта,***
***Павінен кожны ведаць з нас пра гэта.***
***Закончыўся ХХ-ты век,***
***2000 гадоў, як нарадзіўся Бог-чалавек.***
***Якая б у нас не была спакуса,***
***Усе вітаем нараджэнне Хрыста Ісуса.***
***Мы прыйшлі ў новы век,***
***У 3-е тысячагоддзе!***
***Дык ведай чалавек і тваё адроддзе,***
***Што мы ідзём дарогай,***
***Якую паказаў Ісус Хрыстос,***
***Каб і ты, як і ён, уваскрос.***
***Браты і сёстры!***
***З аплаткай!***
***З нараджэннем Хрыстовым,***
***З 2003 Годам Новым!***

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

***Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю Юры Гіль.***

# Калядкі ў школе

***Усмешка, і ласка, і добрае слова***
***Іскрынкай жывою ў вачах заблішчаць.***
***І гэта пачатак і гэта аснова,***
***Каб шчырую песню і дружбу пачаць...***
*(Сяргей Грахоўскі "Прыгажосць")*

У беларускай школе імя Фр. Скарыны вучні паказалі калядны спектакль "Тры каралі". Падрыхтавала яго сястра Наталля Арлянковіч, яна сваёй ласкавасцю і міласцю робіць столькі дабра і святла (Дарэчы, дзякуючы яе намаганням у 2002 годзе былі наладжаны пілігрымкі ў Друю, Росіцу і ў Будслаў, апошняя – пешшу). Сястра Наталля ў школе выкладае рэлігію, яе вельмі любяць вучні.

У спектаклі шмат дзейных асоб – Каспар, Мельхіёр, Бальтазар, Зорка, слугі, чэрці, Ірад, вартаўнік, Анёлкі. Дзеці ў нас таленавітыя, актыўныя, яны шмат выступаюць і ахвотна, іх зацікавіць лёгка, тым больш, што ўжо традыцыйна кожны год у школе паказваецца калядны спектакль і Батлейка. Акрамя школы вучні выступаюць у касцёле святога Барталамея, у клубе "Сябрына". Цудам у спектаклі, акрамя артыстаў, былі касцюмы, зробленыя рукамі сястры Наталлі, і маленькі Анёлачак – будучая вучаніца нашай школы Лаўра Базюк. На прадстаўленні прысутнічаў ксёндз В. Алюліс, ён адзначыў, што прысутнічае пры гістарычнай падзеі, падараваў школе "Евангелле", перакладзенае ім на літоўскую мову, а надпіс зрабіў па-беларуску. Па-беларуску блаславіў усіх прысутных перад Нараджэннем Хрыстовым, усе разам гаварылі "Ойча Наш".

Айцец Алюліс палюбіў беларускую мову яшчэ з часоў вучобы ў каўнаснай духоўнай семінарыі, ён вучыўся разам з айцом Уладзіславам Чарняўскім, які ўжо тады хваляваўся, што знікае наша цудоўная мова. Айцец Алюліс і айцец Ул. Чарняўскі падтрымоўвалі добрыя адносіны.

Па школе ў гэты дзень хадзілі калядоўшчыкі ў нацыянальных строях, вучні пачатковых класаў. У школе захоўваюцца нацыянальныя традыцыі.

***Леакадзія Мілаш, Вільня.***

# Сустрэчы, якія акрыляюць

Жыхары Ленінскага раёна Менска, а таксама чытачы бібліятэкі імя Я. Коласа сустрэліся з вядомым паэтам Генадзем Мікалаевічам Бураўніным. Гэта адбылося 12 снежня ў зале бібліятэкі.

Тры гадзіны праляцелі імгненна.

Генадзь Мікалаевіч чытаў свае вершы розных гадоў. Чатыры дзесяцігодзі паэтычнай працы. У вершаваных радках – жыццё паэта. Апаленае вайной дзяцінства, родная Полаччына, вандроўкі па блізкіх і далёкіх краях, дыпламатычная камандзіроўка ў Злучаныя Штаты Амерыкі, сустрэчы і горкія развітанні з дарагімі людзьмі, палітычныя і чалавечыя захапленні і расчараванні. Як сказаў сам паэт: "Я – сын сваёй зямлі, свайго часу, і матчына слова дапамагала мне выказацца." Шмат пытанняў было зададзена Генадзю Мікалаевічу. І на ўсе ён падрабязна адказаў.

Гэта сустрэча выклікала водгук у нашых душах, мы разумелі адзін аднаго. Пранікнёныя радкі Генадзя Бураўкіна сталі песнямі, дарадцамі. Ён любіць сваю Беларусь, матчыну мову. І гэту любоў перадае нам, яго ўдзячным чытачам.

***Т. Грузнова.***

# Унікальныя шахматы

Супрацоўнікамі мытні "Заходні Буг" на пункце пропуску "Макраны" быў затрыманы шахматны пакой. Па словах начальніка аддзела мытні па барацьбе з кантрабандай Мікалая Бойкі гэты рэрытэт па-мастацку зроблены італьянскімі майстрамі ў наш час, але пад даўніну, вядома, мае вялікую мастацкую і культурную каштоўнасць.

Затрыманы груз накіроўваўся з Італіі ў Маскву і складаецца з трох поўных шахматных камплектаў з 64-мя фігурамі кожны. Шахматныя фігуры і ножкі сталоў выраблены з бронзы з напыленнем золата і срэбра. А сталешніцы -- з белага мармуру, аздобленныя пакістанскім оніксам. Як мяркуюць мытнікі, зроблены ў эксклюзіўным варыянце, шахматны пакой, быў прызначаны ўплывоваму і багатаму расіяніну ў якасці каляднага падарунка.



**На здымку:** фрагменты шахматнага пакоя, канфіскаваныя на мытні "Заходні Буг".
**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

# ПЕРШАЙ СТРАВЫ, ЗДАЕЦЦА, НАЕЛІСЯ

Файнае свята прайшло у сценах сельскагаспадарчай акадэміі, што ў Горках **"Смачна есці-доўга жыць"** Ужо стала традыцыяй, а гэта ўжо восьмы раз, адзначаць яго ў аўдыторыі сярод студэнтаў. Свята-конкурс праходзіў у канцы лістапада ў чытальнай зале 12 інтэрната а 18-й гадзіне.

Тры студэнцкія групы спраўляся за лідарства ў традыцыйнай беларускай кухні. Гэта першакурснікі шостай групы новага факультэта бізнесу і права, першакурснікі дзявятай групы агульнага экфаку і інтэгралы трэцяга курса дзявятай групы факультэта бухгалтарскага ўліку.

Многа было цікавага, радасных усмешак, а яшчэ смачных кулінарных вырабаў: рулет з курыцы, аладкі з макам, жмурыкі, калдуны, капыткі, аладкі з грыбамі, скварчонай курыца з запечанай бульбай, "гранатавы бранзалет", бабка, камы са шкваркамі.

Свята праходзіла весела, з задавальненнем студэнты больш увагі надавалі гумарэскам і тэатралізаваным дзеянням. У БІП перапрануты хлопец, што выконваў ролю дзяўчыны, запамятаў змяніць абутак на жаночы; у ФБУ-абіранне маладой, як у той цікавай казцы, экфак прадставіў навінны жывы тэлевізар, але на сучасны лад.

Пазітыўная атмасфера свята дала новы штуршок да новых і цікавых сустрэч.

Кіраўнік і арганізатар гэтага цікавага і смачнага свята паважаная спадарыня Галіна Яўгенаўна Каданчык, выкладчыца Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі кафедры гісторыі і культуралогіі працуе ў сучасным рытме часу і робіць усё для таго, каб захаваць традыцыі продкаў, узнаўляць іх нашчадкам-беларусам, якія яшчэ жывуць на гэтай зямлі. Каб ведаць традыцыі, мову, культуру неабходна нам беларусам усё гэта захоўваць, "каб не ўмёрлі".

***Валянціна Белавусава, старшыня Горацкай раённай філіі ТБМ.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 01. 2003 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 33.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
***Кошт у розніцу:*** 120 руб.

# 2003 Мястэчка МІР - пярліна Беларусі 2003



## Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

| | СТУДЗЕНЬ | ЛЮТЫ | САКАВІК | КРАСАВІК | ТРАВЕНЬ | ЧЭРВЕНЬ | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | Пн |
| А | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | А |
| Ср | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | Ср |
| Ч | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | Ч |
| Пт | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | Пт |
| Сб | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | Сб |
| Н | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | Н |

| | ЛІПЕНЬ | ЖНІВЕНЬ | ВЕРАСЕНЬ | КАСТРЫЧНІК | ЛІСТАПАД | СНЕЖАНЬ | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | Пн |
| А | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | А |
| Ср | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | Ср |
| Ч | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | Ч |
| Пт | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | Пт |
| Сб | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | Сб |
| Н | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | Н |

# НАША СЛОВА